

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*

# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 4 (690) 26 СТУДЗЕНЯ 2005 г.


## 15 гадоў Закону аб мовах
## Усё спачатку

| НАЦЫЯНАЛЬНЫ СХОД РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ | НАЦИОНАЛЬНОЕ СОБРАНИЕ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ |
|---|---|
| **ДЭПУТАТ** | **ДЕПУТАТ** |
| ПАЛАТЫ ПРАДСТАЎНІКОЎ | ПАЛАТЫ ПРЕДСТАВИТЕЛЕЙ |

13.12.2004 № 35

**Старшыні Грамадскага аб'яднання**
**"Таварыства беларускай мовы**
**імя Францішка Скарыны"**
**Трусаву А. А.**

**Шаноўны Алег Анатольевіч!**

У адказ на ваш ліст 16.11.2004 года № 258 паведамляю, што на сённяшні дзень праект зменаў у "Закон аб мовах у Рэспубліцы Беларусь" у Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь не паступаў. Разам з тым, пры паступленні праекту зменаў мяркую прыкласці ўсе намаганні дзеля пашырэння статусу беларускай мовы ў нашай дзяржаве, больш актыўнага выкарыстання яе ў дзейнасці дзяржаўных і грамадскіх структур.

Буду ўдзячны, калі Ваша аб'яднанне выкажа свае заўвагі і прапановы ў праект зменаў у "Закон аб мовах у Рэспубліцы Беларусь".

З павагай,
**Дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу**
**Рэспублікі Беларусь**
**І. В. Карпенка.**

# СТРАЧАНЫ ШАНЕЦ

З нагоды 15-й гадавіны "Закона аб мовах", што мусіць адзначацца 26 студзеня, хацелася б згадаць, што пасля заканадаўчага замацавання беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай у 1990 г. беларуская моладзь (як і людзі старэйшага пакалення), не выходзіла на вуліцы ды пляцы, пратэстуючы супраць аднамоўя, а кінулася набываць падручнікі ды дапаможнікі па беларускай мове ды літаратуры. Пры навучальных установах ды па-за імі ладзіліся шматлікія курсы. Нягледзячы на тое, што беларусізацыя ў тыя часы (1991-1993 гг.) не паспела набыць шырокага размаху, людзі ўсведамілі прэстыжнасць і перспектыўнасць роднай мовы ва ўсіх сферах грамадскага жыцця краіны. Спрыялі гэтаму ўсведамленню і падзеі ў суседніх дзяржавах, што атрымалі незалежнасць пасля развалу СССР: Літве, Латвіі, Эстоніі, Малдове, Украіне ды іншых. Моўная палітыка тамтэйшых урадаў не была нагэтулькі ліберальнай, як у незалежнай Беларусі. Тым не меней менавіта такая палітыка нашых суседзяў урэшце-рэшт і прынесла станоўчы вынік у сферы моўнага адраджэння.

У 1991 – 1994 гг. на Беларусі не было прымусовай беларусізацыі, але прагрэсіўныя колы грамадства, асабліва моладзь, спрабуючы інтэгравацца ў сацыяльна-эканамічную сістэму незалежнай беларускай дзяржавы, імкнуліся як мага хутчэй засвоіць нацыянальную мову. Памятаю, як сусед, сын якога рыхтаваўся да паступлення ў "палітэх", збіраўся ўладкаваць хлопца ў Гуманітарны ліцэй імя Якуба Коласа на нядзельнае аддзяленне, пытаўся, ці добра там выкладаюць беларускую мову.

Пад час майго паступлення на філфак Педагагічнага універсітэту імя М. Танка (тады інстытут імя М. Горкага) у ліпені 1992 г. конкурс на беларускае аддзяленне быў 12,5 чалавек на месца, у той час, як на расейскае – усяго 3,8.

Здавалася, яшчэ крыху, і беларуская мова запануе ва ўсіх сферах грамадскага жыцця. Прычым без усялякага прымусу з боку дзяржавы.

Шкада, што тое толькі здавалася...

*Сяржук Гуркоў,*
*сябар ТБМ, філолаг.*

## План набору на філфак БДУ

| Год \Аддзял. | Беларус. | Расейск. | Славянск. | Ангельск. | Французск. | Італьянск. | Нямецк. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1993 | 125 | 50 | 25 | | | | |
| 1994 | 140 | 50 | 10 | | | | |
| 1995 | 120 | 50 | 10 | 10 | 10 | | 10 |
| 1997 | 90 | 50 | 30 | | няма звестак | | |
| 1998 | 90 | 50 | 20 | 25 | 15 | 15 | 10 |
| 2001 | 80 | 60 | 20 | 35 | 20 | 20 | 20 |
| 2002 | 83 | 63 | 30 | 42 | 25 | 25 | 25 |
| 2003 | 83 | 63 | 40 | 45 | 20 | 20 | 20 |
| 2004 | 80 | 60 | 30 | 45 | 25 | 25 | 25 |

# ПАМЯЦІ ЧЭСЛАВА НЕМАНА

17 студзеня ў гадавіну смерці Чэслава Немана ў касцёле ў Старых Васілішскай Шчучынскага раёна адбылася святая імша на ўспамін душы вялікага спевака, кампазітара і музыкі, а таксама асвячэнне мемарыяльнай дошкі ў яго памяць. Калісьці малы Чэсь быў хрышчаны ў гэтым касцёле, спяваў тут у касцельным хоры і вось вярнуўся сюды ў бронзе.



Дошка была зроблена лідскім скульптарам Рычардам Грушам, а арганізавала гэтыя памятныя дні па Чэславу Неману Таварыства польскай культуры на Лідчыне начале з Аляксандрам Колышкам.

Не часта ў нас ушаноўваюць эстрадных спевакоў мемарыяльнымі дошкамі, ніхто акрамя У. Мулявіна і на памяць не прыходзіць. А каб устанаўлівалі такую дошку ў храме, то на Беларусі такое, мабыць, упершыню.



Праўда, гэта не першая дошка тут. У 1995 годзе была павешана дошка ў гонар фундатараў касцёла, дзе першымі між іншых названы імёны Леанарда і Ядвігі Іваноўскіх, бацькоў нацыянальнага героя Беларусі Вацлава Іваноўскага.




Людзі сталага веку, якія сабраліся на імшу ў большасці сваёй памяталі Чэся Выдрыцкага, памяталі яго бацькоў і, мабыць, думалі, што правільна зрабілі Выдрыцкія, калі ў свой час выехалі ў Польшчу. Ці стаў бы Чэсь такім вялікім артыстам, каб застаўся на радзіме, якую ён бясконца любіў? А хто ж яго ведае. Талент у Чэслава Немана быў ад Бога і Бог распарадзіўся ім так, як распарадзіўся. Крэсы далі Польшчы яшчэ аднаго вялікага чалавека.

А 16 студзеня ў вялікай зале Лідскага гарадскога дома культуры праходзіла вечарына ў памяць вялікага артыста.

На вечарыне гучалі песні Чэслава Немана, творы ў яго стылі, успаміны пра артыста і проста Чэся са Старых Васілішак.

Песні Немана выконвалі Пётр Ялфімаў, уладальнік гран-пры "Славянскага базару" у Віцебску, польскі спявак з Познані Пётр Кузняк і салістка лідскага гурта "Красавяцы" Гражына Комінч. Познаньскае радыё вяло рэпартаж з вечарыны ў жывым эфіры.

Вечарына вялася на польскай і беларускай мовах, што зусім натуральна, бо Чэслаў Неман да канца жыцця так і не пазбавіўся беларускага акцэнту. Беларускую частку вёў старшыня Таварыства польскай культуры на Лідчыне Аляксандр Колышка.

*Станіслаў Суднік.*

***На здымках:*** 1. Чэслаў Неман. 2. Асвячэнне мемарыяльнай дошкі. 3. Дошка работы Рыч. Грушы.





## ЛЕТАПІС ТАВАРЫСТВА

*Падрыхтавала Ірына Марачкіна*

**2002 год.**

**20 траўня.**

У Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры ў межах Міжнароднага сімпозіюму адбыўся "круглы стол" на тэму "Беларуская мова. Інтэрнэт і камп'ютар" (адказны за арганізацыю і правядзение — кіраўнік спраў ТБМ Сяргей Кручкоў). Прынята рэзалюцыя, разасланая ў Адміністрацыю Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Прэм'ер-міністру Рэспублікі Беларусь, у Палату прадстаўнікоў, Міністэрства адукацыі, Нацыянальную акадэмію навук Беларусі.

У гэтым жа годзе ТБМ пры падтрымцы Беларускага сацыяльна-экалагічнага саюза "Чарнобыль" выдала матэрыялы "круглага стала" асобнай кніжкай "Беларуская мова. Інтэрнэт і камп'ютэр".

**Травень.**

Баранавіцкая гарадская арганізацыя ТБМ шырока адзначыла 200-ыя ўгодкі Ігната Дамейкі. У гонар славутага земляка праведзена віктарына для моладзі, футбольны турнір паміж дваровымі камандамі, коштам арганізацыі выдадзены кішэнны каляндарык на 2002-2003 навучальны год з выявай Дамейкі, напісаны шэраг артыкулаў у мясцовыя газеты.

Выдадзены плакаты і кішэнныя каляндарыкі на 2002-2003 навучальны год да 120-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа.

**19 чэрвеня.**

У рамках Міжнароднага сімпозіюму адбыўся "круглы стол" "Мова і адукацыя, падручнікі, методыкі і дапаможнікі", у арганізацыі і правядзенні якога брала ўдзел ТБМ (адказная Людміла Дзіцэвіч). Прынята рэзалюцыя.

**27 чэрвеня.**

Сакратарыят ТБМ прыняў заявы: "Аб захаванні талерантнасці у Рэспубліцы Беларусь" у сувязі са зменамі ў Закон "Аб свабодзе веравызнанняў і рэлігійных арганізацый" (да дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу), "Аб падтрымцы журналістаў газеты "Пагоня"

**9 ліпеня**

Падчас Міжнароднага сімпозіюму зварот быў перададзены Сяргеем Кручковым Генеральнаму дырэктару ЮНЕСКА Каіціру Мацуўры. Ад ТБМ зварот падпісалі Алег Трусаў і Сяргей Кручкоў.

*(Працяг у наст. нумары.)*

*Да 15-годдзя Закона аб мовах у Беларусі*

# Як тое было

**Распавядае Пётр Краўчанка**

Чаму я стаў адным з сааўтараў Закона аб мовах? Гэта вельмі важна зразумець, бо нічога не з'яўляецца з нічога. На пачатку 80-х я працаваў загадчыкам навукі і навучальных установ Менскага гаркама. І вось аднойчы, я думаю, што гэта быў недзе 1982-гі год, да мяне ў кабінет прыйшла расхваляваная загадчыца гарадскога аддзела адукацыі Тамара Чобатава і прынесла некалькі дакументаў. Па-сутнасці, гэта была заява бацькоў адной дзяўчынкі, якую звалі Надзейка Лісіцына (усё жыццё буду памятаць яе прозвішча). Бацька і маці настойліва ставілі пытанне пра тое, што іх дачка павінна атрымаць адукацыю на дзяржаўнай мове, якая з'яўляецца для нас галоўнай. Яны спасылаліся на тое, што пэўны час пражылі ў Вільні і бачылі, як гэтае пытанне вырашаецца там. Ім было вельмі дзіўна, што ў сталіцы БССР няма ніводнай школы, ніводнага класа, дзе б навучанне вялося на роднай мове.

У той час у Менску было каля 200 школ з агульнай колькасцю 180-190 тысяч вучняў. Абсалютна абгрунтаваным было пытанне бацькоў, чаму яны, жывучы ў Грушаўцы, кожную раніцу мусілі былі вазіць дзіця ў прыгарадную вясковую школу на аўтобусе. Маці – школьная прыбіральшчыца і бацька – мастак ці архітэктар – прасілі нас уявіць сябе на іх месцы.

Я запытаў Тамару Іосіфаўну, якое ў нас заканадаўства на гэты конт. Яна (дарэчы, руская, з Варонежа, без ведання беларускай мовы) адказала, што ў адпаведнасці з літарай закона гэтая дзяўчынка павінна атрымаць адукацыю па-беларуску. Калі гэта так, то зрабіце, каб яна, акрамя, скажам, чарчэння, вучылася па-беларуску. Прабачце, сказала яна, а як жа гэта зрабіць? Няма ні падручнікаў па цэламу шэрагу прадметаў, ні методык іх выкладання на беларускай мове. Няма класаў, структур. Я прапанаваў патэлефанаваць міністру адукацыі Міхаілу Гаўрылавічу Мінкевічу, якога добра ведаў. Адбылася шчырая размова, у выніку якой пагадзіліся, што мы нешта зробім у гэтым канкрэтным выпадку, але трэба рыхтаваць і нейкія агульныя змены, бо не выключана, што такіх заяў будуць тысячы. Міністр меў добрую нацыянальную закваску, сам выдатна размаўляў па-беларуску. Ён прызнаў, што ў моўным пытанні мы зайшлі не туды, але для яго вырашэння яму трэба паразмаўляць у Цэнтральным Камітэце. Дамовіліся, што спецыялісты міністэрства дапамогуць скласці навучальныя праграмы для Надзеі Лісіцынай. Я сказаў Тамары Іосіфаўне, каб тая прыняла неабходныя захады для індывідуальнага навучання. Недзе ў кастрычніку-лістападзе мы выканалі патрабаванні бацькоў Лісіцынай. Я потым ездзіў у школу, цікавіўся. Надзея стала для мяне як хросніца, якая мусіць увайсці ў гісторыю адраджэння беларускага школьніцтва Менска. Мэнавіта яна першая прымусіла мяне задумацца над моўнай праблемай.

Стала відавочна, што трэба адкрываць першы беларускамоўны клас. У гэты час я быў сакратаром Менскага гаркама партыі. Клас пачаў стварацца ў 108-й школе Партызанскага раёна Менска. У далейшым гэта школа стала першай беларускай навучальнай установай. Цягам 1985-1990-х гадоў я непасрэдна займаўся адкрыццём новых беларускіх класаў і школ. Натуральна, што для гэтага трэба было папярэдне сагітаваць бацькоў. Я прыняў удзел, напэўна, у некалькіх сотнях сходаў, прычым не толькі ў Менску. Мне дапамагала Жэня Янішчыц. Яна чытала вершы, а я агітаваў з пазіцыі аднаго з кіраўнікоў горада. Я супрацоўнічаў з Нілам Гілевічам, Барысам Сачанкам. Быў распрацаваны спецыяльны план гаркама партыі. Я ганаруся тым, што калі ў 1990 годзе пайшоў з пасады сакратара, у Менску было ўжо 49 школ з 4 ці 5 паралелямі беларускіх класаў. Гэта, па-сутнасці, кожная чацвёртая школа. У сярэдзіне 90-х ужо большасць школ Менска мелі статус беларускамоўных.

Вялікая ўвага надавалася і дзіцячым садкам, бо менавіта з іх і з бацькоўскай хаты пачынаецца школа. Па гэтым пытанні мы з Нілам Гілевічам правялі нараду ў Саюзе пісьменнікаў. У мяне нават захаваўся тэкст выступу на той нарадзе. Для мяне вельмі важна было знайсці хаўруснікаў у райкаме, бо там было шмат рускіх і такіх, якія мову ведалі, але не карысталіся ёй. Некаторыя з іх і да гэтага часу не размаўляюць, але вельмі прыхільна да яе ставяцца. Падтрымку ад іх я атрымаў.

На пленумах гаркама мы ставілі пытанне і аб тым, што варта змяняць і назвы некаторых вуліц. Таксама трэба пісаць па-беларуску інфармацыю на нашых таварах і агучваць аб'явы ў грамадскіх месцах. Я размаўляў на гэты конт з кіраўніком метрапалітэна Мітасавым. Трэба ўлічыць, што партыя мела тады вялізную ўладу, і калі падаць свой погляд аргументавана, ён прымаўся. Памятаю, як з



Ядвігай Юферавай мы пісалі тэксты аб'яў, я сам рэдагаваў іх як мог. Аднак, гэта была ўсё ж такі самадзейнасць, бо канкрэтных дырэктываў з боку ЦК не існавала. Але, варта адзначыць, што не было і перашкод. Вельмі спрыяла вырашэнню моўнага пытання наша інтэлігенцыя. З гэтай нагоды прыгадваецца ліст на імя Гарбачова, пад якім падпісалася блізу 100 прадстаўнікоў інтэлігенцыі. Пасля гэтага прыехаў да нас інструктар ЦК КПСС, з паходжання ўкраінец, а ў іх, вядома, іншае стаўленне да пытанняў развіцця роднай мовы.

Так што рукі ніхто не звязваў. Першыя сакратары дазволілі мне займацца гэтай працай так, як я палічу за лепшае. У той жа час моладзь і Беларускі Народны Фронт патрабавалі большага. Яны не верылі шчырасці партыйцаў, думалі, што гэта іх хітрая тактыка з мэтай затрымацца ва ўладзе. Мы лічылі, што не трэба звяртаць увагу на абвінавачанні. Я заўсёды адзначаў, што неабходна яднаць тыя сілы, якія стаяць за нацыянальнае. Галоўнае – працаваць і не пераводзіць усё у дыспут. Я забараняў тады выкарыстоўваць усялякія злосныя эпітэты і казаў, што Пазняк не вораг. Ён – апанент. Такі падыход, думаецца мне, быў канструктыўным.

На пэўным этапе працы я зразумеў, што ў нас не вызначана моўная палітыка. У той час я быў членам абкама наміналына – як член гаркама. Але тады на абласных пленумах, здаралася, давалі слова і галіновым сакратарам. Дык вось на адным з такіх пленумаў, дарэчы, у прысутнасці Вольскага, які зараз працуе ў Маскве, я і ўзняў пытанне пра Закон аб мовах. Пасля выступу Вольскі ў прысутнасці Малафеева зазначыў, што я правільна стаўлю пытанне. Ён і з армянамі працаваў, і з грузінамі. Дык Грузія яшчэ за савецкім часам мела грузінскую мову за дзяржаўную. Нешта, маўляў, вы ў Беларусі адстаяце.

Моцны быў і ціск з боку Ніла Гілевіча. Не раз бываў у ЦК Максім Танк. Нарэшце наспела такая сітуацыя, калі ўсе зразумелі, што трэба было прымаць Закон. У той час сакратаром ЦК быў Валеры Андрэевіч Пячэннікаў. На пленумы Саюза пісьменнікаў і мастакоў ён не хадзіў, бо не выступаў па-беларуску. Так што ЦК увесь час як быццам прыкрываўся мной.

Пры стварэнні адмысловай камісіі вырашылі, што кіраўніком яе будзе Ніна Мазай, якая, як намеснік старшыні Савета міністраў, адказвала за школы і моўную палітыку. У камісію ўвайшла вялікая група палітыкаў, грамадскіх дзеячаў, пісьменнікаў, навукоўцаў: Ніл Гілевіч, Барыс Сачанка, Пётра Садоўскі, прафесар Міхась Яўневіч, Юры Пятровіч Смірноў – загадчык аддзела навукі і навуковых устаноў. Апошні, зрэшты, рускі, не ведаў мовы, але вельмі ўважліва ставіўся да моўнага пытання. На маю думку, ён адыграў пэўную ролю ў прыняцці Закона. У камісію ўвайшлі і кіраўнікі прадпрыемстваў, напрыклад, Іван Трусаў – дырэктар Барысаўскага "Чырвонага металіста", які потым стаў дэпутатам Вярхоўнага Савета 12-га склікання. На працягу двух месяцаў камісія збіралася ў Саўміне. Была выдзелена спецыяльная зала на другім паверсе левага крыла. У камісію таксама ўваходзіў Абрамовіч як юрыст. Асноўную працу зрабілі літаральна некалькі чалавек: Ніл Гілевіч, Барыс Сачанка, Міхась Яўневіч, Юры Смірноў. Пачалі з напісання прадмовы, дзе падкрэслівалася, што мова – гэта душа народа. Першы накід Закона зрабіў за некалькі начных пасядзелак Барыс Сачанка. Ён прынёс напісаны ад рукі ўступ – кароткі, лапідарны, але эмацыйны. Былі вывучаныя і выкарыстаны законы аб мовах Эстоніі, Латвіі, Украіны, Грузіі.

Мы акцэнтавалі на тым, што бацькоўскія заявы аб абранні мовы навучання не мусяць быць абавязковымі. Нам хацелася аўтаматызаваць гэты працэс, а таксама паказаць зацікаўленасць дзяржавы, дзяржаўны падыход. Пры гэтым усё было зроблена вельмі разумна. У тэксце Закона Вы ўбачыце тэрміны ў 3, 5, 9 гадоў. Так што не было ніякага прымусу, пра які пачалі крычаць пасля 1994 года, вінавацячы Ніла Гілевіча і Алега Трусава. Маўляў, яны ўстанавілі нейкі моўны дыктат. Я ўвогуле лічу, што з 1989 па 1994 год мы праводзілі адну з самых разумных моўных палітык: не спяшаліся, нікога не прымушалі. Галоўным прынцыпам была агітацыя ўласным прыкладам.

Праца пачалася ў канцы верасня 1989-га, а ў снежні завяршылася. Потым пачаліся ўзгадненні з усімі зацікаўленымі міністэрствамі. А зацікаўлены былі амаль усе. Мы не атрымалі ніводнага адмоўнага водгуку, толькі нехта прасіў падоўжыць тэрміны выканання.

Закон быў унесены ў парадак дня апошняй сесіі Вярхоўнага Савета XI склікання 26 студзеня 1990 г., літаральна за месяц да абрання першага дэмакратычнага парламента. Вёў сесію Іван Навуменка – пісьменнік, як і ўсе спікеры ў тыя часы. Натуральна, ён вельмі прыхільна ставіўся да гэтага пытання. Перад тым, як камісія сабралася для падпісання, некалькі кіраўнікоў прадпрыемстваў (не буду называць іх прозвішчы, гэта вядомыя сёння ў Беларусі людзі) учынілі дэмарш. Гэта быў такі шалёны, рашучы наскок, маўляў, усё гэта не рэальна, людзі будуць супраць і г. д. Але атака дырэктараў была дружна адбіта аўтарскім калектывам закона.

У дзень прыняцця закона мусілі выступаць некалькі чалавек, у прыватнасці Ніл Гілевіч і я як прадстаўнік партыйных работнікаў. У той час, напэўна, 99 % усіх дэпутатаў былі рускамоўнымі, за выключэннем, бадай, міністра Шацілы. Памятаю, як уся зала слухала справаздачу старшыні камісіі Ніны Мазай. Было надзвычай ціха. Усе разумелі значнасць і незвычайнасць падзеі. Пасля выступаў пісьменнікаў у зале пачуліся апладысменты, як быццам абудзіліся ў душах людзей тое, што мелася абудзіцца.

Запомнілася і тое, што моладзь у гэты дзень выйшла на вуліцы з маніфестацыямі і зладзіла некалькі пікетаў каля помніка Янкі Купалы. Яны казалі, што гатовы распрацаваць новы, лепшы і больш радыкальны закон. А сучасная рэдакцыя – чарговыя хітрыкі партакратаў. Мы, распрацоўшчыкі, пасмейваліся з гэтага. Цікава, што літаральна праз некалькі гадоў тых, хто тады пратэставаў супраць нашай рэдакцыі закона – Беларускі Народны Фронт – пачалі абвінавачваць у тым, што як быццам бы яны насаджаюць нейкую моўную дыктатуру ў Беларусі.

Закон аб мовах – ужо наша гісторыя, але я заўсёды буду ганарыцца тым, што прымаў непасрэдны ўдзел у яго распрацоўцы.





*Да 15-годдзя Закона аб мовах у Беларусі*

# Выступленне Пятра Краўчанкі на 14-й сесіі Вярхоўнага Савета БССР 11-га склікання 26 студзеня 1990 г.

***Паважаны таварыш старшыня Вярхоўнага Савета БССР!***

***Паважаныя таварышы!***

"Шчаслівы той народ, у якога не напісаны яшчэ ўсе старонкі ў кнізе яго гісторыі". Думаю, што сёння, калі на нашых вачах адбываюцца гістарычныя падзеі, у нас ёсць усе падставы, каб упэўнена, пераканаўча сцвярджаць гэтую думку.

Як здарылася, што наша мова, якую вялікі наш зямляк А. Міцкевіч называў "самай гарманічнай з усіх славянскіх моў, найменш зменянай, ... цудоўна прапрацаванай", апынулася пад пагрозай? Адказаць на гэта пытанне некалькімі словамі немагчыма. Сёння хацелася б канстатаваць галоўнае: ганебнае становішча складвалася не адзін год, не адно дзесяцігоддзе. Маруднае, колькаснае назапашванне негатыўных момантаў у сферы нацыянальнай культуры і мовы не магло не прывесці да непазбежнага абвастрэння і эмацыянальнага "выбуху" ў асяроддзі інтэлігенцыі. Яе боль трэба разумець і падзяляць. Бо сапраўды мы "унікальныя", унікальныя ў адносінах да сваёй мовы не толькі ў краіне, але і ў Еўропе. Прывяду толькі адну лічбу, якая красамоўна гаворыць сама за сябе: сярод прыкладна 20 народаў СССР колькасцю звыш 1 млн. чалавек беларусы займаюць адно з апошніх месцаў па ўдзельнай вазе людзей, якія лічаць сваю мову роднай і актыўна ёю карыстаюцца. Услед за намі ідуць савецкія немцы, палякі і іншыя народы, якія раскіданы па краіне, не маюць нацыянальна-дзяржаўных форм свайго існавання.

Хачу падкрэсліць, што, як і заўжды, у самых складаных абставінах трагічнасць развіцця падзей, боль нацыянальнай інтэлігенцыі, боль народа зразумела партыя. Так было ў далёкія і такія блізкія (маючы на ўвазе змест працэсаў) 20-я гады, калі пачыналася так званая палітыка "беларусізацыі", калі сцяг нацыянальнага адраджэння, стварэння беларускай савецкай дзяржаўнасці сумесна з інтэлігенцыяй узнялі Аляксандр Чарвякоў, Змітрок Жылуновіч (Цішка Гартны), Аляксандр Крыніцкі (дарэчы – рускі па нацыянальнасці), М. Галадзед, М. Гікала і іншыя. Так павінна быць і ёсць сёння, калі жыватворны вецер красавіка 1985 года прынёс нам перабудову, стварыў аб'ектыўныя ўмовы для вырашэння гэтага складанейшага пытання. Прынамсі, толькі за апошні час яно тры разы разглядалася на Бюро ЦК КПБ, абмяркоўвалася на Пленумах ЦК Кампартыі Беларусі. Прыняты праграмы "Спадчына" і "Роднае слова".

Дзякуючы намаганням гарадской партыйнай арганізацыі, значныя змены ў адносінах да мовы назіраюцца ў нашай сталіцы. Яшчэ два гады назад мы вырашылі не чакаць прыняцця Закона аб мовах, не спадзявацца толькі на яго, а рыхтаваць глебу, ствараць першыя беларускамоўныя класы і школы, ствараць моўнае асяроддзе ў вялікім горадзе, весці растлумачальную і прапагандысцкую працу, псіхалагічна рыхтаваць людзей да больш сур'ёзных перамен. Мы зрабілі крок насустрач нашай інтэлігенцыі, нашым пісьменнікам, мастакам і настаўнікам і пачалі працаваць сумесна. Але ўсё, што рабілася такім чынам, гэта толькі падмурак, толькі першыя крокі на ніве нацыянальнага адраджэння. Яны выклікаюць увогуле складаную палітру пачуццяў: удзячнасць, і радасць, і скепсіс. Стала зразумела, што доўгі час пратрымацца на энтузіязме адзінак немагчыма, што неабходна прыняццё Закона аб мовах у Беларускай ССР.

Гістарычнае, грунтоўнае значэнне Закона ў тым, што яго прыняццё, а я спадзяюся і веру, што так гэта і будзе, з'явіцца яскравым і канкрэтным сведчаннем незваротнасці працэсу адраджэння мовы, паскладзе, раз і назаўсёды, канец спекулятыўным думкам і плёткам наконт палітычнай кан'юнктуры, хітрасці партыйцаў, нейкіх спробаў адцягнуць час, а таксама аб'ектыўна існуючай няўпэўненасці людзей за лёс сваіх дзяцей у перспектыве. Дзяржаве ў гэтых адносінах трэба вызначыцца і яна вызначаецца.

Што сёння бачым мы ў ходзе абмеркавання Закона? Што выклікае найбольшую заклапочанасць і занепакоенасць людзей? Зразумела, статус дзяржаўнасці беларускай мовы, месца і роля рускай і іншых моў у нашай рэспубліцы.

Доўгі час у нас афіцыйна абвешчана нацыянальна-рускае двухмоўе. Але ў рэальнасці, у жыцці – гэта юрыдычная фікцыя. Склалася так, што руская мова займае пануючае месца ва ўсіх галінах сацыяльна-палітычнага і грамадскага жыцця. І ў бліжэйшыя дзесяцігоддзі сфера яе выкарыстання не звужаецца. Наданне, ці больш дакладна, адраджэнне дзяржаўнага статуса беларускай мовы (дарэчы, ў трэці раз і, спадзяюся назаўсёды) дазволіць юрыдычна і фактычна за пэўны тэрмін дасягнуць тых пазіцый, якія займае руская мова. Іншымі словамі, нам вельмі неабходна дабіцца ў рэальным жыцці парытэту моў, больш спрыяльных умоў для развіцця беларускай мовы. Дзяржава бярэ нацыянальную мову пад апеку, клапоціцца пра яе. Калі вы прымеце ў якасці дзяржаўнай дзве мовы, то нічога не мяняецца, усё будзе захоўвацца, як сёння. Прапанаваны ў Законе варыянт, мне здаецца, на гэтым этапе развіцця нашага грамадства з'яўляецца найбольш лагічным, у нейкім сэнсе кампрамісным. Але вядома, што палітыка – гэта майстэрства магчымага і другога выйсця я не бачу. І яшчэ адзін момант, на які звяртаў увагу Ленін. Каб не было перакосаў, гаварыў ён, ёсць залатое правіла: рускія павінны клапаціцца аб мове "нацыяналаў", а нацыяналы (гэта значыць беларусы) – аб рускай мове. І ўсё стане на свае месцы. Мы атрымалі Закон, аб якім усе марылі апошнія гады, але разумеем, што Законы складаюцца не на век. Мы лічым, што Закон аб мовах у БССР з'яўляецца, калі параўноўваць яго з іншымі, найбольш дэмакратычным, "спакойным" (маючы на ўвазе формы і тэрміны яго рэалізацыі), які стварае неабходныя ўмовы для атрымання адукацыі на роднай мове прадстаўнікам брацкіх народаў нашай краіны. Зразумела, калі Закон будзе прыняты, колькасць беларускамоўных, рускамоўных і іншамоўных школ і дзіцячых садкоў будзе строга адпавядаць удзельнай вазе таго ці іншага народу, які жыве ў рэспубліцы. Упэўнены, што як і ў 20-30 гады, якія заўсёды вызначаліся сваёй талерантнасцю на Беларусі, будзе развівацца і школа на польскай, яўрэйскай і, калі спатрэбіцца, на іншых мовах.

Вядома, нельга спрошчана і аднназначна падыходзіць да гэтых працэсаў. Дзяржава павінна клапаціцца пра якасць выкладання рускай мовы. Поспехі, дасягнутыя нашай рэспублікай у электроніцы, прыборабудаванні, матэматыцы, фізіцы і іншых галінах красамоўна сведчаць аб братняй дапамозе рускага народу, адсутнасці моўнага бар'еру. Адкрытасць свету – вялікая прыцягальная рыса, якая адрознівае цывілізаванасць ад местачковасці, замкнёнасці і ізаляванасці, дазваляе творча засвойваць вечныя каштоўнасці культур іншых братніх народаў нашай краіны і ўсёй планеты. Не трэба забывацца пра тое, што на рускай мове сканцэнтравана s назапашанай у краіне інфармацыі па ўсіх галінах ведаў.

Сённяшняя сесія дазваляе нам з аптымізмам глядзець у будучыню. Але не ўпадаць у рамантызм, не спадзявацца на аўтаматызм дзеяння артыкулаў Закона. Закон – канцэнтраваная юрыдычная норма, а выконваюць яго рэальныя жывыя людзі. Не трэба спадзявацца, што калі Закон будзе прыняты, усё памяняецца ў адзін момант. Не, цуда не бывае і не будзе. Мы павінны падрыхтавацца да таго, што самае складанае – наперадзе. На першае месца я вылучаю псіхалагічны аспект справы. З аднаго боку, неабходны канкрэтныя меры, а з другога – пільнасць, асцярожнасць, узважаны падыход, бо ідзе гаворка пра лёс людзей, іх дзяцей, сем'і, пра будучыню і кожнага чалавека, яго чалавечую годнасць. Тут аднолькава небяспечна як забяганне наперад, фарсіраванне працэсу, так і непаслядоўнасць, нерашучасць, маруднасць, спробы назіраць за сітуацыяй збоку. І тое, і другое можа прывесці да росту сацыяльнай напружанасці, ўзаемных абвінавачванняў, дэкансалідацыі насельніцтва рэспублікі. Асаблівая ўвага – вырашэнню кадравых пытанняў.

На першае месца ў сённяшніх умовах трэба ставіць прафесійную кваліфікацыю чалавека, яго сумленнасць, чалавечую годнасць і толькі потым – валоданне, як беларускай, так і рускай мовамі. Мы катэгарычна супраць такіх метадаў вырашэння кадравых пытанняў, як у Эстоніі, дзе згодна з пастановай Дзяржкамітэту па працы ад 19.05.89 года кіраўніцтва ўстановы мае магчымасць звольніць з пасады чалавека, які на працягу года не змог вывучыць эстонскую мову. Лічу, што ў нарматыўных актах, якія будуць прымацца ўслед за Законам, такіх прыкрых прыкладаў не павінна быць.

Эканамічны бок справы. Сёння не проста разглядаць яго, маючы на ўвазе, што праблемай №1 з'яўляецца Чарнобыль. На паліцах магазінаў пуста, не хапае самага неабходнага. Дарэчы, чатыры месяцы назад я ўздымаў гэта пытанне і ўносіў прапанову, каб сумесна з Законам былі прыняты ў адзіным пакеце дакументы, якія б фінансава маглі яго абгрунтаваць. На жаль, гэта будзе зроблена толькі 1 верасня бягучага года. Сёння прагучалі велізарныя лічбы. Але давайце паспрабуем прааналізаваць іх. Я сустракаў лічбу, што толькі пераклад падручнікаў для ВНУ будзе каштаваць 280 млн. руб. Не магу паверыць у яе рэальнасць. Здаецца, яе складалі тыя, хто катэгарычна супраць Закону. Скажыце, калі ласка, навошта сёння ставіць пытанне аб перакладзе ўсіх падручнікаў для ВНУ, у тым ліку, напрыклад, "сапрамата". Гэта не рэальна, бо ў многіх галінах тэхнічных ведаў яшчэ тэрміналогія не распрацавана і хутчэй за ўсё не магчыма распрацаваць, бо мова навукі – інтэрнацыянальная па сваёй сутнасці. Узнікае і другое пытанне. Наша рабочая група, якая займалася толькі Законам, падрыхтавала яго праект каля 4-х месяцаў назад. Чаму гэта пытанне не ўзнікала ў нашага Ураду раней, чаму трэба было чакаць сесіі, каб паднясць яго тут? Усе пачынаюць адразу лічыць грошы, калі пачынаецца размова пра культуру, народную адукацыю.

Ці ведаюць дэпутаты, што толькі адно выдавецтва "Мастацкая літаратура" дае ў год прыбытак больш за 12 млн. рублёў? Трэба разумець і тое, што рэалізацыя Закона разлічана на 10 гадоў, і грашовыя сродкі спатрэбяцца не ўсе адразу. Я не за тое, каб марнатравіць грошы. Але глыбока перакананы, што меркантыльны грашовы падыход непрымальны ў духоўнай сферы. Давайце вучыцца ў гісторыі.

1921 год. Холад, голад, галеча. Урад рэспублікі знаходзіць 20 млн. рублёў валюты, каб надрукаваць у Берліне першыя беларускія падручнікі на мове Б. Тарашкевіча, С. Некрашэвіча, Я. Лёсіка. Няўжо мы былі тады багацейшыя, чым сёння? Не, мы крышку па-іншаму адносіліся да сваёй зямлі, будучыні свайго народу.

Рост нацыянальнай свядомасці беларусаў, рускіх, палякаў, яўрэяў – гэта аб'ектыўная рэальнасць. Я хачу параўнаць яе з магутным, імклівым патокам, дзе ў сцюдзёнай, празрыстай вадзе дзе-нідзе сустракаюцца і трэскі, і камяні, усё тое, што можа стварыць небяспеку чалавеку-плыўцу. Ад нас, партыйцаў, якія павінны добра ведаць і добра слухаць народ, у нейкім сэнсе залежыць, якім быць гэтаму бурліваму патоку, у якое разумнае, стваральнае рэчышча яно накіруецца. Толькі так – з народам і дзеля народа. Той, хто не разумее гэтага, будзе адкінуты ўбок. Толькі ў такім выпадку мы зможам падтрымліваць усё адвечна здаровае, што ёсць у нашага народа, не дадзім развівацца расткам пустазелля, нацыяналізму. Найбольш эфектыўны шлях барацьбы з ім – гэта шчырая стваральная праца на ніве нацыянальнага адраджэння.

Шаноўныя дэпутаты!

Мова – тысячагадовая творчасць народа, тут яго характар і душа, свабода і памяць, філасофская сістэма і метафарычны код. Калі б мова была ўсяго толькі сродкам зносін паміж людзьмі, народы даўно б прыстасавалі для гэтай мэты латынь, санскрыт, ці эсперанта. Колькі моў у свеце, столькі і цывілізацый на зямлі. Таму мы стаім за мову, за родную, матчыну, але таксама за кожную мову, за кожны народ – гэта робіць нас гуманістамі.

І апошняе. Паважаныя дэпутаты! Я хачу, каб кожны з вас добра зразумеў гістарычную адказнасць за лёс Закона. Сімвалічна, што вы маеце магчымасць прыняць яго ў год, калі ўвесь свет, усе брацкія славянскія народы будуць адзначаць 500-годдзе з дня нараджэння вялікага сына зямлі беларускай, нашага першадрукара, гуманіста і асветніка Францішка Скарыны. І мне здаецца, што хацелі б мы таго ці не, яго гістарычная постаць знаходзіцца тут, у гэтай зале, як у гэтай зале знаходзяцца гістарычныя постаці Купалы і Коласа, Багдановіча і Гарэцкага, Чарвякова і Галадзеда, рускіх кіраўнікоў Крыніцкага і Панамарэнкі, якія з надзеяй глядзяць на нас і здаецца гавораць: "У добры шлях!". І давайце таксама не будзем забываць XIX стагоддзе – вытокі сучаснай нацыянальнай самасвядомасці, давайце не будзем забываць рэвалюцыянераў-дэмакратаў, Герцэна і Дабралюбава, якія прызналі факт існавання беларускага этнасу. Давайце не будзем забываць словы Францішка Багушэвіча, які звярнуўся да народа з заклікам: "Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!"

Давайце азірнёмся на апошнія 500 год, давайце азірнёмся на нашу шматпакутную трагічную гісторыю, успомнім пранікнёныя словы Янкі Купалы

*"Бессмяротнае слова –*
*ты роднае слова,*
*Ты крыўду,*
*няпраўды змагло.*
*Хоць гналі цябе,*
*накладалі аковы,*
*Ды дарма – жыве і жыло".*

# Агледзіны

Дзяржаўны Літаратурны музей Янкі Купалы адзначыў 85-годдзе паэта, перакладчыка, празаіка, заслужанага работніка культуры, сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў Міколы Аўрамчыка. Невыпадкова менавіта гасцінная зала Дома Купалы сабрала сяброў юбіляра, прыхільнікаў яго таленту. Больш за паўстагоддзе працягваюцца творчыя стасункі Міколы Якаўлевіча з музеем Песняра. Ён – лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Янкі Купалы

Мікола Аўрамчык можа прыгадаць вельмі цікавыя дэталі пра шматлікія сустрэчы з самім Янкам Купалам. Ягоныя ўспаміны пра народнага песняра "З імем Купалы – у сэрцы" нельга чытаць без хвалявання. Лёс падараваў яму дружбу з жонкай Купалы Уладзіславай Францаўнай, сёстрамі паэта Марыяй Аўлачынскай і Леакадзіяй Раманоўскай.

Наогул у паэзіі Міколы Аўрамчыка часта прысутнічае вобраз Янкі Купалы: вершы «Слова паэта», «У той дзень», «Ленінграду», «Вянкі Янку Купалу», «Вяртанне», «Універсітэцкі гарадок», «Дарожны надпіс каля Радашковіч», «Роднае», «Там, дзе Ленінскі праспект плыве...» і іншыя. У прысвячэннях народнаму песняру Янка Купала паўстае як увасабленне Радзімы, як сімвал Беларусі, як таленавіты прадстаўнік духоўнай сілы народа.

Міколу Аўрамчыка і гасцей імпрэзы "Агледзіны" прывіталі музычнай праграмай навучэнцы Рэспубліканскага каледжа мастацтваў імя Ахрэмчыка. Словы ўдзячнасці за сувязь з музеем Песняра, за адданасць Купалу выказаў дырэктар музея Сяргей Вечар, з рук якога Мікола Якаўлевіч атрымаў памятныя сувеніры. Ад Саюза беларускіх пісьменнікаў выступіў старшыня Алесь Пашкевіч. Міколу Аўрамчыка павіншаваў старэйшы беларускі паэт, сябра Міколы Якаўлевіча Пятро Прыходзька. Сяброўскае слова юбіляру прамовілі вядомыя паэты Анатоль Вярцінскі і Генадзь Бураўкін.

Цёплыя словы падзякі Міколу Аўрамчыку выказалі Сяргей Законнікаў, Уладзімір Някляеў, Генрых Далідовіч. Сяргей Панізнік прысвяціў юбіляру верш "Агледзіны". Пра памятныя сустрэчы з Міколам Аўрамчыкам распавёў Анатоль Бутэвіч.

У купалаўскіх літаратурных сустрэчах ёсць свая асаблівасць: ні адна з іх не праходзіць без паэтычнага слова. Акцёр Уладзімір Цімашэвіч выканаў вершы Міколы Аўрамчыка "Вянкі Янку Купалу", "Беларуская сасна" і верш, прысвечаны Анюце. Верш "У той дзень" прагучаў у выкананні вучняў СШ №19 імя Янкі Купалы Марыны Сонец і Паўла Новіка.

Шмат дзесяткаў гадоў, самааддана і пасляхова, Мікола Аўрамчык працуе ў літаратуры. Самааддана – бо паэтычнае слова сталася яму гэткім жа неабходным, як само жыццё. Паспяхова – бо лепшыя яго рэчы сталі здабыткам не толькі беларускай паэзіі, іх высока ацанілі і за мяжой.

Не так даўно ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" выйшла новая кніга Міколы Аўрамчыка "Знаёмыя постаці", прэзентацыя якой адбылася на юбілейнай вечарыне. У кнігу ўвайшлі нарысы, прысвечаныя беларускім паэтам, празаікам, грамадскім дзеячам. З павагай і ўдзячнасцю піша аўтар пра Янку Купалу, Якуба Коласа, Кандрата Крапіву, Аркадзя Куляшова, Пімена Панчанку, Максіма Танка. Лірызмам і смуткам прасякнуты ўспаміны пра Аляксея Коршака, Міколы Сурначова, Аляксея Пысіна. Цікавыя звесткі чытач знойдзе пра Івана Мележа, Пятра Машэрава, Змітрака Бядулю і іншых вядомых асоб. Пра тое, як кніга "Знаёмыя постаці" рыхтавалася да выдання, як ішоў творчы працэс, што адметнага ў яе мастацкім афармленні, расказала рэдактар кнігі, загадчык рэдакцыі дзіцячай літаратуры выдавецтва "Мастацкая літаратура" Святлана Фядотава.



*Дырэктар музея Сяргей Вечар ганаруе юбіляра*

Сустрэча з сапраўднай паэзіяй – заўсёды свята. Юбілей паэта – адно з такіх шматлікіх святаў, якія падараваў Мікола Аўрамчык прыхільнікам свайго таленту за багаты творчы век. Бываюць людзі вельмі шчодрага ўнутранага гарэння, ад якога робіцца святлей і цяплей на душы. Менавіта такім дарам надзелены паэзія і сам паэт Мікола Аўрамчык. Мастацкае слова тым больш важкае і значнае, чым больш яно ўвабрала ў сябе аўтарскага пачуцця, хвалявання, развагі, радасці або болю. Сапраўдны паэт выказвае сваё асабістае, але так глыбока, у такіх дасканалых вобразах, такімі перажытымі словамі, што гэтае асабістае робіцца нашым. Удзельнікі імпрэзы адчулі гэта з выступлення юбіляра Міколы Аўрамчыка.

Да вечарыны была падрыхтавана выстаўка з фондаў музея Янкі Купалы, дзе паказаны шматлікія фотаздымкі, дакументы, зборнікі паэзіі, аўтографы вершаў Міколы Аўрамчыка.



*Слова мае Генадзь Бураўкін*

*Дзіяна Філіповіч, старшы навуковы супрацоўнік музея Янкі Купалы*

*Фота Алены Лабовіч.*

*Станіслаў Суднік*

# З БЕЛАРУСКАЙ МОВАЙ ПА ЖЫЦЦІ

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

Ненаўмысная рэклама зрабіла сваю справу. 6-га верасня у школу прыйшло 14 новых вучняў, але, разам з тым, недзе каля 10 чалавек выехала у Беларусь. У тым ліку паехаў і мой старэйшы сын Максім, які паступіў у Менскі радыётэхнічны каледж, не памятаю, як было тады, ці пасля 8-га класа ці пасля 9-га, бо мела месца яшчэ і школьная рэформа. Тым не менш, на 20 верасня колькасць вучняў у нашай нядзельнай школе дасягнула стабільнай для нас лічбы 40 чалавек, і дзеці прадаўжалі прыходзіць. Да таго ж на занятках з'явіліся дарослыя, чаго не было ў мінулыя гады.

Заняткі пачаліся ў 4-х групах:

- першая група – 2-гі клас агульнаадукацыйнай школы;
- другая група – 3-ці клас;
- трэцяя група – 4-ты - 6-ты класы;
- чацвёртая група – 7-мы - 11-ты класы і дарослыя.

Выкладчыкамі былі прызначаны **Станіслаў Суднік, Ігар Супаненка, Юры Маянскі, Сяржук Пахучы, Юры Кавалевіч, Вадзім Крывецкі, Станіслаў Цвірка, Віктар Грамадка.** Я прадаўжаў весці старэйшую групу (у новай герархіі - 4-ю), Супаненка - 3-ю, Маянскі - 2-ю. Каго мы паставілі на новую (самую малодшую) 1-ю групу, нажаль дакладна сказаць ужо не магу. Гэта мог быць і Пахучы, і Грамадка, і Кавалевіч, і любы іншы. Захавалася галоўнае: быў адзін асноўны выкладчык і адзін на падмену.

Заняткі, як і раней, пайшлі па трох прадметах: па беларускай мове, па беларускай літаратуры, па беларусазнаўству (гісторыі, геаграфіі, мастацтву, культуры, рэлігіі Беларусі).

На новы навучальны год для старэйшай групы была запланавана для вывучэння граматыка Тарашкевіча і беларуская лацінка ў двух варыянтах.

Гісторыя выкладалася ў старэйшых групах па кнізе Міколы Ермаловіча "Старажытная Беларусь", а у малодшых па "Кароткаму агляду гісторыі Беларусі".

Мы рыхтаваліся да новага навучальнага года, але праблемы з падручнікамі ўсё-такі на пачатак года былі. Вельмі дорага пачала каштаваць перасылка. У Менску нам давалі кнігі, колькі хочаш, але бібліятэка ўжо не мела магчымасці за свой кошт перасылаць іх, было дорага.

З нагоды пачатку новага навучальнага года і цяжкасцяў, якія ўзніклі, "Рокаш" № 14 пісаў:

*"Але, не гледзячы ні на што, барацьба будзе працягвацца. Барацьба за кожнага чалавека, за кожнага будучага грамадзяніна Беларусі, за кожнае слова роднай мовы, уложанае ў памяць, за кожнае імя гістарычнага дзеяча Беларусі, укладзенае у душу дзеля ўваскрашэння нацыянальнай свядомасці. Можна быць упэўненымі, што пасля нашай школы ў Беларусі бязродных манкуртаў стане на 40 чалавек меней."*

Але тыя годы сапраўды былі гадамі пераменаў. У кастрычніку 1992 года на мяне і на Ігара Супаненку былі падпісаны загады аб пераводзе ў Беларусь. Мае дзевяць казахстанскіх гадоў заканчваліся. Але пакуль не здаў пасаду, я заставаўся намеснікам камандзіра, і ў кастрычніку 1992-га года выйшаў яшчэ адзін нумар "Рокаша" - 15-ты.

У газеце падымаліся розныя тэмы. Адной з такіх тэмаў была праблема тэксту Вайсковай прысякі. Газета друкавала тэкст прысягі Беларускай краёвай абароны. У той жа газеце быў надрукаваны мой верш "Прысяга", які ўвайшоў у шэраг праграмных.

Гэты нумар "Рокаша" змясціў развітальны артыкул, які лічу вартым тут прывесці:

*ШАНОЎНАЕ СПАДАРСТВА*

*Так атрымліваецца, што гэты нумар нашай газеты хутчэй за ўсе стане апошнім, прынамсі апошнім, як газеты Прыазёрскай гарадской рады ТБМ. Справа ў тым, што на падпалкоўніка Судніка і маёра Супаненку падпісаны загад міністра абароны Расіі аб пераводзе іх у распараджэнне міністра абароны Рэспублікі Беларусь. У выніку гэтага тыя супрацоўнікі рэдакцыі, якія яшчэ застаюцца ў Прыазёрску, трацяць магчымасць выкарыстання тэхнікі, а разам з тым і магчымасць выпуску газеты.*

*Са жніўня 1990 года выходзіў "РОКАШ". Сёння нам яшчэ цяжка сказаць, ці патрэбнай была гэтая нялёгкая работа, ці прынеслі мы карысць Беларусі, ці ўсё мы зрабілі, што маглі зрабіць. Невялікім быў наклад газеты, усяго каля 150 асобнікаў. "РОКАШ" быў другой пасля "НАШАГА СЛОВА" газетай, якая выйшла пад шыльдай ТБМ, і адзіным у Казахстане беларускім выданнем. Мы выдалі 15 нумароў і адзін святочны выпуск, прысвечаны 73 угодкам БНР. Акрамя таго мы выдалі абмежаваным накладам зборнік паэзіі Станіслава Судніка "ПАГОНЯ ЗА МОВУ" і "ШЫХТОВЫ СТАТУТ БЕЛАРУСКАГА ВОЙСКА", распрацаваны тут жа у Прыазёрску. Мы адкрылі беларускія нядзельныя школы ў Прыазёрску, дзе трэці год вучыцца да 40 дзетак, і ў Цвяры, дзе вучыцца да 15 дзетак. Наша газета адкрыла маладую паэтэсу Лену Бязрукаву, якая мае вялікі талент і, мы верым, вялікую будучыню.*

*Мы не паспелі... Мы не паспелі вельмі шмат і ўжо не паспеем.*

*Сёння мы з вялікім сумам развітваемся са сваёй газетай. Мы не ведаем, што чакае нас на Беларусі, ці прыдземся мы да двара ў тым войску, якое зараз называецца беларускім, ці давядзецца асвойваць тонкасці цывільнага жыцця. Мы не ведаем, ці ўдасца нам аднавіць газету, але апошні склад рэдакцыі: падпалкоўнік Станіслаў Суднік, маёр Ігар Супаненка, маёр Станіслаў Цвірка, капітан Віктар Грамадка пакідае за сабой выключнае права на скарыстанне назвы "РОКАШ".*

*Шаноўныя чытачы "РОКАША". Мы не праводзілі падпіску на нашую газету, яна распаўсюджвалася бясплатна, таму мы не маем перад вамі ніякіх фінансавых даўгоў, і, тым не менш, мы шчыра просім прабачэння за тое, што газета "РОКАШ" знікае з вашага жыцця.*

*Калі хто захоча напісаць нам, не спяшайцеся, кожны атрымае новы адрас аднаго з нас.*

*З павагай і найлепшымі пажаданнямі*
*Калектыў рэдакцыі.*



**Такім "бліскучым" падпалкоўнікам, з дзвюма вышэйшымі адукацыямі, з медалём "За баявыя заслугі", ордэнам "За службу Радзіме" і ганаровым знакам "Войскі СПА", з трыма сотнямі баявых ракетных пускаў за спіной, з пасады 1-га намесніка начальніка палігона я пакідаў Казахстан, каб служыць Беларусі. Было мне 38 гадоў.**

## ПРЫСЯГА

**Перад Богам Ўсявышнім і Роднай Зямлёю**
**Я табе прысягаю, радзімы мой край,**
**Прысягаю і сілай, і думкай сваёю,**
**І гарачай крывёю, і шляхам у рай,**

**Прысягаю палеткам і нівам жытнёвым,**
**І табе, памяць прадзедаў, лёгшых у дол,**
**І сцюдзёным завеям, і кветкам вясновым,**
**І табе, роднай хаты амшалы вугол.**

**Прысягаю сягоння, і заўтра, і ўчора,**
**За ўсе дні, што пражыў і яшчэ пражыву,**
**Што нідзе і ніколі, ні ў шчасці, ні ў горы,**
**І ні ў сне паўсвядомым, і ні наяву**

**Ні на крок не сыду я са шляху змагання,**
**Ні на міг не схаваю мяча і пяра,**
**Не пачую ні модлаў, ні слоў апраўдання**
**Аж да тога, пакуль не настане пара,**

**Што мая Беларусь перарве ўсе аковы,**
**І заззяе спрадвечнаю славай сваёй,**
**І з кайданаў праклятых паробіць падковы**
**Для імклівых дрыгантаў Пагоні святой.**

**І не здолець мяне, ані сілай, ні здрадай,**
**Ні агнём, ні мячом, ні ліслівай маной,**
**Не купіць ні рублём, ні жытлом, ні пасадай,**
**Не зламаць ні ў любові, ні ў веры святой,**

**Я дайду і аддам і жыццё, і натхненне,**
**І зраблю нават тое, што нельга зрабіць,**
**Хай памру без надзей на грахоў адпушчэнне,**
**Ды ўсяроўна адну яе буду любіць.**
**Беларусь і па смерці я буду любіць.**

У лістападзе я выехаў у Беларусь. Здаў кватэру. У два кантэйнеры загрузіў рэчы. Кантэйнеры, хоць з цяжкасцю, але па бутэльцы спірту за кожны ўдалося здабыць. Стась Цвірка правёў нас да Масквы (сам ён яшчэ заставаўся служыць і ехаў у камандзіроўку).

Аднак нацыянальнае жыццё ў Прыазёрску на гэты не спынілася. Заставаўся Супаненка. Школа прадаўжала працаваць. Паехаў Супаненка, перараз-меркаваліся выкладчыкі, і школа працавала. І толькі недзе пад Новы год, калі ў Прыазёрск прыйшла сапраўдная зіма, і ў чарговы раз камунальныя службы размарозілі горад, школа спыніла сваё існаванне. У Прыазёрску словы "размарозіць горад" абазначалі, што ўвесь 60-тысячны горад, школы, дамы, бальніцы заставаліся без цяпла. У будныя дні дзеці ў школах вучыліся па тры ўрокі. Гнаць іх у той холад яшчэ і ў нядзелю не выпадала. Размеркаваць класы па кватэрах было можна, але гэта тым, хто застаўся, было ўжо не пад сілу. З маім ад'ездам не стала таго, што зараз называецца адміністрацыйным рэсурсам. Не было каму мабілізаваць увесь вайсковы інтэрнацыянал на працу дзеля Беларусі. Неўзабаве і ўся нашая частка была расфармаваная.

Сёння можа падацца дзіўным, як такое магло быць у савецкім войску?

Сам дзіўлюся. Але такія былі часы, такая была краіна, такія былі людзі. Каб гэтага ўсяго не было не ўпала б нам незалежнасць пераспелым яблыкам проста ў рукі.

У Менску нас ніхто не чакаў.

І ўсё ж мы былі дома.

Мікола Міхноўскі дапамог у інтарнаце, у якім ён жыў сам, атрымаць пакой за ўмераную плату і на вялікі тэрмін. Апорны пункт з'явіўся. Пара была прыступаць да ўладкавання на службу.

Тое што ў выкліку, які мне давалі ў штабе Менскай арміі СПА, гарантавалася маё ўладкаванне па службе, на самай справе нічога не значыла. За тыя паўгода, пакуль цягнуўся гэты перавод, у Менску шмат чаго змянілася. Па-першае, быў звольнены са службы генерал-лейтэнант Асмалоўскі, які персанальна даваў каманду арганізаваць мой перавод, і які з-за сваёй высокай чалавечай парадачнасці ніколі б не адмовіўся ад сваіх абяцанняў.

У Беларусі з'явіўся міністр абароны сп. П. П. Казлоўскі і адпаведна новы камандуючы СПА (здаецца генерал-маёр Мажухін, каб не памыліцца). У новага камандуючага перада мной ніякіх абавязкаў не было.

Я гэта выдатна разумеў і на першым этапе не стаў да яго звяртацца. На той момант у мяне склаліся добрыя адносіны з палкоўнікам Нікуліным, які ў савецкі час займаў пасаду намесніка члена Вайсковай Рады Чырвонасцяжнай Беларускай вайсковай акругі, а ў новых рэаліях быў намеснікам начальніка Ўправы выхаваўчай працы, ці прыблізна так тады гэта ўсё называлася. Пазней ён узначаліў гэтую Ўправу і атрымаў генерала. Ён быў рускі, але ўспрымаў мой "нацыяналізм" вельмі памяркоўна. Нікулін сказаў, што возьме мяне ў сваю Ўправу, і мы з ім паехалі ў Управу кадраў. І вось тут я ўбачыў сапраўдны твар новага "беларускага" войска, якое ўзначальваў сп. Казлоўскі.

Па Ўправе і перад ёю таўкліся натоўпы лейтэнантаў, старшых лейтэнантаў, капітанаў, якіх пачкамі звальнялі з Ўзброеных Сілаў, звальнялі без пенсіяў, без кватэраў. Застацца служыць удавалася тым, хто мог умудрыцца даць добры хабар. А хто мог?

*(Працяг у наст. нумары.)*

# “Белпошта” не забывае беларускіх пісьменнікаў




Многія памятныя даты з жыцця слынных людзей Беларусі часта застаюцца па-за ўвагай сродкаў масавай інфармацыі. Не выключэнне і нашая газета.

І вельмі добра, што “Белпошта” стварае нагоду хоць трохі кампенсаваць гэтыя прабелы.

Выпушчаныя “Белпоштай” напрыканцы леташняга года канверты нагадваюць, што 1.03.1929 года нарадзілася Еўдакія Лось, беларуская паэтэса,памерла 3.07.1977 г. а таксама тое, што 24.12.1904 года нарадзіўся Алесь Дудар (сапр. Аляксандр Дайлідовіч), беларускі паэт, крытык, перакладчык, адзін з заснавальнікаў літаб'яднання “Маладняк”, рэпрэсава-ны ў 1936 годзе, расстраляны 29.10.1937 г.

*Наш кар.*

# Шахматныя задачы па-беларуску

*Я. Дзвізаў. Szachy. Варшава. 1965 г. 2 прыз.*



1.f7+ Kpf8 2. e6! K:d6 3.Kd5! Ф:d5 4.Cg7+ Kpe7 5.Cf6+! (5.f8Ф+? Kp:e6 6.Фg8+ Kf7! 7.Ф:f7+ Kpd6 =) Kp:e6 6.f8K!x. (5. ... Kpf8 6.e7x). Ідэальны мат пераўтвораным канём з двума актыўнымі блакаваннямі.

# МАЯ ШКОЛА

У 2002 годзе Ахонаўская школа, што ў Дзятлаўскім раёне, святкавала сваё 150-годдзе. Сапраўды, па звестках з архіваў, яна была заснавана ў царскія часы ў 1852 годзе. На свята з'ехалася шмат былых выпускнікоў, мясцовы клуб не мог змясціць усіх прыезджых, не было, як кажуць, дзе яблыку ўпасці, прысутнічала больш за 300 чалавек. Будынак, які быў з самага пачатку, захаваўся і да сённяшніх дзён, і, трэба зазначыць, у нядрэнным стане.



*Ахонаўская сярэдняя школа, 1953 год.*

Цікавы лёс другога, асноўнага будынка, які амаль на працягу ўсяго часу выкарыстоўваўся пад класы і праз які прайшла амаль ўся маса былых навучэнцаў.

А гісторыя такая. Калісьці ў 17-18 стагоддзях уладальнікам Дзятлава быў уплывовы і багаты шляхціц Солтан, продкі якога мелі дачыненні да пабудовы Жыровіцкай святыні, што ў Слонімскім раёне. Яму належалі землі і Ахонава. Памятаю, яшчэ за польскім часам, адзін канец вёскі называлі Солтанскім, а другі канец называўся Ксяндзоўскім, напэўна таму, што там была царква (і цяпер ёсць), і была яна ў тыя часы ўніяцкай, а святар быў ксёндз. Пасля вядомых паўстанняў на Беларусі ў 1831 і 1863 гадах Солтан эміграваў, землі яго адышлі сялянам, а вялікі масіў лесу забрала сабе царская дзяржава – гэта прыкладна ад станцыі Яцкі да ракі Нёман.

Пасля рэвалюцыі і Рыжскай дамовы, калі землі Заходняй Беларусі прыхапіла Польшча, Солтанскі лес адышоў да дзяржавы і ёю выкарыстоўваўся. Памятаю, як мясцовыя людзі павінны былі браць дазвол, каб схадзіць у лес па ягады ці грыбы.

Прыкладна ў 1936 г. ужо пасля смерці Пілсудскага, знайшліся нашчадкі былога ўладальніка лесу. Газам з адвакатамі яны пабывалі ў Ахонаве. Мой бацька Міхаіл Дзямянавіч і яго дваюрадны брат Іван Герасімавіч па даручэнні адвакатаў пачалі збор сведак і старых звестак пра лёс уладальнікаў і самога лесу. У 1937 г. адбыўся суд, і лес адышоў нашчадкам былых гаспадароў. З цэнтральнай Польшчы прыехаў адмысловы спецыяліст лясной гаспадаркі па прозвішчы Сташэвіч, які стаў ляснічым. Пачалося пісьменнае лесаўпарадкаванне, з'явіліся новыя пасадкі лесу. Мой старэйшы брат Васіль атрымаў (можна сёння сказаць па - блату) работу па таксацыі лесу, за што атрымоўваў па 2 злотыя штодня, і ўжо ў 1938 годзе змог купіць сабе ровар. Побач са станцыяй Яцкі была пабудавана ляснічоўка, якая была і службовым памяшканнем, і жыллём для ляснічага. Гэта быў двухпавярховы дабротны дом. Перад вайной у ляснічага была домработніца, ездзіў ён на матацыкле і вельмі часта прывозіў з Дзятлава і Наваельні да сябе наведвальнікаў і наведвальніц. З прыходам Чырвонай арміі у 1939 годзе, польскія чыноўнікі і сам ляснічы збеглі, тады будынак былой ляснічоўкі быў разабраны і перанесены ў Ахонава пад школу, дзе многія пакаленні атрымалі веды.

У апошнія гады Ахонава памалу памірае, у школе засталося толькі каля 40 вучняў. Сам будынак былой школы пустуе, паціху гніе, і нікога ён не цікавіць. Вось такая сумная канцоўка майго аповяду і ўспамінаў.

***Уладзімір Логаш, былы вучань школы ў 1938-1950 годзе.***

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220034, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* naszaslowa@tut.by
**http://tbm.org.by/ns/**

*Рэдакцыйная калегія:*
Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Вольга Іпатава, Васіль Ліцьвінка, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Аляксей Пяткевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 24. 01. 2005 г. Замова № 4.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы. Наклад 2000 асобнікаў.
**Падпісны індэкс:** 63865.
**Кошт падпіскі:** 1 мес.- 1340 руб., 3 мес.- 4020руб.
**Кошт у розніцу:** 300 руб. (у Менску - 310 руб.)